№ 45 (3888)

13 чэрвеня 2014 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

*Якуб КОЛАС*

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

*Падпіска на «Народную Волю» на другое паўгоддзе блізіцца да завяршэння.*
*Не спазніцеся!*
*Вы — з «Народнай Воляй», «Народная Воля» — з Вамі!*

ГО-О-ОЛ!

# Футбольны карнавал!



## *Учора ў Бразіліі стартавала свята для балельшчыкаў і букмекераў — чэмпіянат свету па футболе.*

«Хворая» на футбол Бразілія ў экстазе — краіна славіцца не толькі самымі відовішчнымі ў свеце карнаваламі. Ёсць нават такі выраз: *«У галовах бразільскіх мужчын — толькі футбол. У галовах жанчын — толькі карнавалы».*

Было шмат крытыкі ў адрас гэтага першынства, у самой Бразіліі праходзілі акцыі пратэсту, аднак факт застаецца фактам — чэмпіянат распачаўся, і, я ўпэўнены, мы абавязкова ўбачым на футбольным полі шмат прыгожага і запамінальнага.

Зрэшты, ёсць у гэтай справе і пацярпелы бок. Напрыклад, жонка майго суседа футбольны форум ацаніла крытычна: *«Каб яно правалілася — такое свята! Лічы, на месяц губляю мужа. Як страус хавае галаву ў пясок, так мой па вечарах і ноччу будзе з галавой у сваім футболе».*

А вось для каго футбольнае першынство на самай справе грандыёзная падзея, дык гэта для букмекераў. Процьма людзей робяцца вялікімі футбольнымі знаўцамі, якія пры гэтым жадаюць яшчэ і зарабіць. Бяда ў тым, што на такіх чэмпіянатах кожная каманда — індывідуальнасць, якая імкнецца выкласціся на ўсе сто, а таму вынікі могуць быць самымі непрадказальнымі.

— Калі казаць пра актыўнасць балельшчыкаў-ігракоў на стаўках, то з чэмпіянатам свету па футболе не можа параўнацца ніякая іншая спартыўная падзея, — распавядае мне намеснік начальніка па букмекерскай дзейнасці букмекерскага клуба «Алімп» **Ваген АКАПЯН**. — Быў ажыятаж і падчас хакейнага першынства ў Мінску, але гэта не тое... Зараз людзі зараней паклалі на свае рахункі мільёны рублёў, хочуць выйграць. Робяць стаўкі па 20—30 мільёнаў.

**— Які самы буйны выйгрыш быў у вас апошнім часам?**

— Чалавек зрабіў экспрэс-стаўку на некалькі матчаў і атрымаў 80 мільёнаў прыбытку.

**— Калі праводзіць матч «ігракі—букмекеры», то хто звычайна перамагае?**

— Розныя выпадкі. Напрыклад, калі праходзіў хакейны чэмпіянат у Мінску, то наша кантора прайграла. Шмат прадказальных гульняў было.

**— На футбольным чэмпіянаце букмекеры будуць балець за слабыя каманды?**

— Ёсць такі момант. Вобразна кажучы, што камандзе-фаварыту добра, то для букмекера смерць.

...Футбольнае свята ў Бразіліі будзе працягвацца месяц. Месяц шчасця для аматараў футбола ва ўсім свеце.

**Алесь СІВЫ.**

САНКЦЫІ

# Не пераканалі

Падчас нядаўняй сустрэчы ў Мінску міністра замежных спраў Беларусі **Уладзіміра Макея** і намесніка памочніка дзяржаўнага сакратара ЗША **Эрыка Рубіна** адмена санкцый была для беларускага боку ледзь не галоўнай тэмай. «Асабліва адзначана неабходнасць адмены санкцый, якія перашкаджаюць развіццю нармальных адносін паміж Беларуссю і Злучанымі Штатамі», — паведамляў беларускі МЗС па выніках гэтай сустрэчы. Аднак афіцыйны Мінск не здолеў пераканаць афіцыйны Вашынгтон.

На гэтым тыдні стала вядома, што **Барак Абама** вырашыў працягнуць санкцыі ў дачыненні да шэрагу кіраўнікоў Беларусі і накіраваў адпаведны ўказ у Кангрэс. У пасланні адзначаецца, што дзеянні і палітыка шэрагу чыноўнікаў Беларусі (у тым ліку некаторых членаў урада) падрываюць дэмакратычныя працэсы і інстытуты краіны, а таксама парушаюць правы чалавека шляхам палітычных рэпрэсій і карупцыі.

Нагадаем, што ўказ пра санкцыі супраць беларускіх чыноўнікаў, якія ўпершыню былі выдадзены ў ЗША ў 2006 годзе, абнаўляецца штогод. У спіс уключаны дзесяць чалавек, сярод якіх і кіраўнік Беларусі, і некаторыя міністры. Увесь гэты час Мінск вядзе «гандаль» з Вашынгтонам, патрабуючы адмены санкцый. Злучаныя Штаты выказваюць гатоўнасць пайсці на такі крок, але пасля таго, як у Беларусі пройдуць свабодныя і дэмакратычныя выбары, а таксама будуць вызвалены палітвязні.

Аналагічнай пазіцыі, як вядома, прытрымліваецца і Еўрасаюз. Прычым тэрмін дзеяння санкцый ЕС заканчваецца ў кастрычніку 2014 года, і яны тычацца значна большай колькасці беларусаў, якія адзначыліся парушэннем правоў чалавека. Так што лёгка здагадацца, што цяпер беларуская дыпламатыя сканцэнтруе намаганні на еўрапейскім накірунку.

**Ігар МАРОЗАЎ.**

## ДАРЭЧЫ

У артыкуле «Таемная дыпламатыя» за 6 чэрвеня мы звярнулі ўвагу на тое, што апошнім часам заходнія госці беларускага МЗС чамусьці не сустракаюцца з прадстаўнікамі беларускай апазіцыі, хаця раней такія сустрэчы лічыліся ледзь не абавязковымі. Як высветлілася, што тычыцца намесніка памочніка дзяржсакратара ЗША Эрыка Рубіна, то ў ходзе свайго візіту ў Мінск 3—4 чэрвеня ён меў такі намер, і спроба арганізаваць такую сустрэчу амерыканскім бокам прадпрымалася. Але... Лідараў беларускай апазіцыі не аказалася ў Мінску, бо яны з'ехалі на канферэнцыю ў Вільнюс. У выніку сустрэча не адбылася.

ОФИЦИАЛЬНО

# Сергей Лавров едет в Минск обсуждать «украинскую тему»

Министр иностранных дел России **Сергей Лавров** 15—16 июня приедет в Беларусь с рабочим визитом.

Об этом сообщил пресс-секретарь белорусского МИД **Дмитрий Мирончик** 12 июня на брифинге в Минске. В ходе визита пройдут переговоры российского политика с министром иностранных дел Беларуси **Владимиром Макеем.**

На вопрос, будет ли в ходе переговоров обсуждаться ситуация в Украине, Мирончик ответил:

*«Внешнеполитическое взаимодействие Беларуси и России отличается высокой интенсивностью. Актуальные региональные вопросы, в числе которых есть и украинская тема, будут присутствовать в повестке дня переговоров».*

БЕЛАРУСЬ—ЕЎРОПА

# Загадкавы візіт



Візіт Аляксандра Лукашэнкі ў Сербію, які пачаўся вечарам у сераду, стаў сапраўдным палітычным рэбусам. Разгадаць яго не так проста.

Як вядома, Еўропа не адмяняла санкцый у адносінах да беларускага кіраўніка. Прозвішча Аляксандра Лукашэнкі па-ранейшаму занесена ў спісы неўязных у Еўрасаюз...

Сербія пакуль не з'яўляецца членам ЕС, а толькі вядзе перамовы на гэты конт. Так што фармальна можа падацца, што, прыняўшы з візітам кіраўніка Беларусі, гэтая краіна нічога не парушыла. Аднак справа ў тым, што Сербія (як, дарэчы, і Харватыя, Македонія, Ліхтэнштэйн, Албанія, Чарнагорыя і інш.) цалкам падтрымалі ацэнку Еўрасаюзам парушэнняў правоў чалавека ў нашай краіне і афіцыйна далучыліся да візавых санкцый. Адным словам, тое, што самалёт беларускага прэзідэнта ўзяў курс у заходнім накірунку, — падзея зусім не шараговая. І хаця шмат гаворыцца пра неабходнасць развіцця эканамічнага супрацоўніцтва паміж Беларуссю і Сербіяй, галоўнае ў гэтым візіце, думаецца, не эканоміка, а ўсё ж такі палітыка.

Звяртае на сябе ўвагу заява дарадцы прэзідэнта Сербіі **Івана Мркіча**, які сцвярджае, што запрашэнне **Аляксандру Лукашэнку** наведаць Сербію было накіравана паўгода таму і што кіраўнік знешняй палітыкі ЕС **Кэтрын Эштан** ведала пра падрыхтоўку гэтага візіту. Лагічна дапусціць, што калі б кіраўнік еўрапейскай дыпламатыі была супраць «заходняга прарыву» Аляксандра Лукашэнкі, то яна знайшла б словы для размовы з афіцыйным Бялградам. І тым не менш візіт адбыўся.

Атрымліваецца, што Еўропа зноў гатова працягнуць руку Аляксандру Лукашэнку. На якіх умовах? Яны абмяркоўваюцца ў гэтыя дні. І Сербія тут выступае адвакатам беларускага кіраўніцтва.

Наўрад ці нехта чакае, што Аляксандр Лукашэнка зробіць разварот ад Расіі ў бок Еўропы, але новае поле для манеўру ў выніку гэтых перамоў ён можа атрымаць. Вельмі падобна на тое, што Захад не хоча пакідаць Беларусь і Аляксандра Лукашэнку адзін на адзін з **Уладзімірам Пуціным,** але цяпер крок насустрач павінен зрабіць менавіта афіцыйны Мінск.

**Алена НОВІКАВА.**

ЗА ПРАХАДНОЙ

# Чаму рабочыя не могуць пахваліцца высокімі заробкамі...

*Пабываўшы на прадпрыемствах энергетычнай галіны Гродзенскай вобласці, карэспандэнт «Народнай Волі» даведаўся, што беларускі торф запатрабаваны нават у Аб'яднаных Арабскіх Эміратах. Аднак кіраўнікі торфаздабываючых заводаў нашай краіны не могуць казаць пра высокія прыбыткі і нармальныя зарплаты людзей.*

*Да энергетычнай галіны адносіцца і Навагрудскі завод газавай апаратуры. І што дзіўна — зарплаты некаторых рабочых на гэтым прадпрыемстве складаюць усяго тры мільёны рублёў...*

## Развіццё са скрыпам

Лідскі торфабрыкетны завод — невялікае прадпрыемства, вытворчыя плошчы якога размясціліся ў некалькіх кіламетрах ад горада. Зусім побач з заводам знаходзіцца рабочы пасёлак Першамайскі. Уся тутэйшая інфраструктура — дамы, крамы, дзіцячы садок — узводзілася спецыяльна для работнікаў прадпрыемства.

Здабыча торфу на Лідскім торфабрыкетным распачалася яшчэ ў 1957 годзе. Беларускі торф быў запатрабаваны на прасторах былога Савецкага Саюза. Аб гэтым сведчаць і лічбы: самым «ураджайным» для завода быў 1971 год, калі аб'ём здабычы торфу склаў 947,7 тысячы тон. А максімальная колькасць торфабрыкету была выраблена ў 1987-м – 140,3 тысячы тон.

Зараз пра такія аб'ёмы прадпрыемству застаецца толькі марыць. І не таму, што вытворчыя магутнасці не дазваляюць вырабляць прадукцыі больш (хаця дзеля справядлівасці адзначым, што матэрыяльная база на заводзе, што называецца, «пажылая» — некаторым станкам хутка будзе 40 гадоў), а таму, што зараз торф не з'яўляецца прадукцыяй першай неабходнасці — у рэшце рэшт, тапіць можна і вугалем, і газам. Тут, як кажуць, кожны выбірае для сябе...

Аб тым, што на лідскім «торфабрыкеце» справы не самыя лепшыя, падказаў мой нядаўні візіт на такі ж завод у Салігорскім раёне. Там у бягучым годзе значна знізіўся аб'ём вытворчасці, узніклі праблемы з экспартам... Нешта падобнае зараз перажываюць і лідскія вытворцы.

Дырэктар прадпрыемства **Іван Залескі,** у прыватнасці, распавёў:

*— Мінулы год прадпрыемства спрацавала з прыбыткам. Ад рэалізацыі прадукцыі мы атрымалі 4 мільярды 277 мільёнаў рублёў, больш за 2 мільярды склаў чысты прыбытак. У гэтым годзе мы пакуль працуем амаль у «нуль», за чатыры месяцы прадпрыемства атрымала 120 мільёнаў рублёў страт, але гэтаму ёсць аб'ектыўныя прычыны: па-першае, на заводзе ідзе рамонт, да таго ж мінулая зіма выдалася цёплай. Прывяду прыклад. У кастрычніку мінулага года мы адгрузілі на экспарт 4,5 тысячы тон прадукцыі, а ў лістападзе гэты паказчык знізіўся да 2 тысяч тон. Асноўная краіна, куды ідзе на экспарт наша прадукцыя, — Літва, але мінулай восенню праселі кошты на вугаль і драўніну, і зразумела, што там аддалі перавагу гэтым відам паліва. За мінулы год мы паставілі на экспарт 47 тысяч тон брыкету пры вытворчасці 110 тысяч тон у год. У лепшыя гады паказчык экспарту складаў 60%.*

Для таго каб вырабіць адну тону прадукцыі, Лідскі торфабрыкетны завод затрачвае ад 410 тысяч да 470 тысяч беларускіх рублёў (што ў пераліку прыкладна 30—34 еўра), а кошт адной тоны брыкету на міжнародным рынку складае 51—52 еўра...

На гэты год аб'ёмы вытворчасці на лідскім прадпрыемстве наступныя: плануецца выпусціць 101 тысячу тон торфабрыкету, а агулам — 120 тысяч тон (з улікам рэшты, якая маецца на прадпрыемстве). Попыт на торф зараз упаў, і цяпер трэба выбіраць: альбо аб'ёмы, альбо марнаванне сродкаў на захоўванне прадукцыі, якая не прадаецца.

Каб зусім не забуксаваць, прадпрыемства, зразумела, шукае варыянты для экспарту. Краінамі-спажыўцамі прадукцыі Лідскага торфабрыкетнага завода з'яўляюцца Літва, Польшча, Швецыя і нават Аб'яднаныя Арабскія Эміраты. Аказваецца, у ААЭ ў якасці паліва для ацяплення традыцыйна выкарыстоўваюць... костачкі маслін. Прычым спецыялісты расказваюць, што пры іх перапрацоўцы пах стаіць не вельмі прыемны. Трэба думаць, што беларускі торф пахне больш прыемна ды і каштуе дзешавей, таму арабы выбіраюць яго...

Жарты жартамі, але бачна, што валюта зарабляецца беларускімі прадпрыемствамі са скрыпам. І любы дырэктар дзяржпрадпрыемства сто разоў падумае, перш чым прыняць рашэнне аб тым, як яе патраціць. Што тычыцца Лідскага торфабрыкетнага завода, то тут пра мадэрнізацыю, нібыта абвешчаную па ўсёй краіне, гаворка не ідзе.

*— Вы павінны разумець, што пакупка новага абсталявання — гэта капітальныя ўкладанні,* — дзеліцца прапіснымі ісцінамі Іван Залескі. — *Я лічу, што калі можна падтрымліваць у працоўным стане старую тэхніку, то гэтым трэба карыстацца. Неабходнасці ў замене няма.*

Не збіраецца дырэктар і на роўным месцы ўздымаць заробкі рабочым прадпрыемства. Адзначым, што на сённяшні дзень тут працуе 270 чалавек. Атрымліваюць хто як, у залежнасці ад выпрацоўкі. Зразумела, што лічбы ў разліковых лістках у кожнага розныя, але сярэдні заробак складае 4 мільёны 700 тысяч.

*— Я не супраць таго, каб падтрымаць рабочых*, — прызнаецца Іван Залескі. — *Але не проста так. Заробак павінен быць зароблены. Калі плаціць людзям неапраўдана вялікія грошы — гэта шлях у нікуды.*

Варта адзначыць, што пра ўзровень сваіх даходаў дырэктар сціпла прамаўчаў.

Аднак не будзем лічыць чужыя грошы, заўважым, што значныя сродкі ўжо ўкладзены заводам ва ўласнае развіццё. На прадпрыемстве пачаў работу першы ў Беларусі модульны аўтаматызаваны комплекс па вытворчасці торфабрыкету. Прасцей кажучы, своеасаблівы міні-завод у чыстым полі.

Гэта так званая новая частка вытворчасці. Да месца яго знаходжання мы дабіраліся па заводскай чыгунцы хвілін сорак. Міма праплывалі даволі прыгожыя краявіды — штучныя азёры, дзе ўжо абжыліся лебедзі і з'явілася рыба. Гэта былыя месцы па распрацоўцы тарфянікаў. Іх глыбіня дасягае шасці метраў, і зараз тут праводзіцца «другаснае забалочванне». Маўляў, прырода адновіць усё сама без асаблівага ўмяшальніцтва чалавека. Гледзячы на прыродную прыгажосць, Іван Залескі раскрывае адну з галоўных праблем, якая сёння стаіць перад торфаперапрацоўчымі прадпрыемствамі, — адсутнасць сістэмы ў выкарыстанні прадукцыі.

*— Адзначу, што ёсць дзяржаўная праграма, якая прадугледжвае выдзяленне зямель пад торфаздабычу,* — гаворыць ён. — *Аднак у Беларусі няма так званай «дарожнай карты» ў гэтай галіне. У Еўропе яна распрацавана аж да 2050 года. Гэта сведчыць аб тым, што еўрапейскія вытворцы спачатку забяспечаць прадукцыяй свой рынак і спажыўца і толькі потым будуць звяртацца да імпарцёраў. А мы проста не ведаем, колькі таго ж торфабрыкету купяць у нас беларускія прадпрыемствы. Няма такога дакумента, які абавязаў бы беларускіх спажыўцоў купляць прадукцыю ў нас. Каб гэта было ўрэгулявана, то зняла б пэўную колькасць праблем.*

**(Працяг на 2-й стар.)**

ПЕРСОНА

# *Тамара ВИННИКОВА:*
# «Жизнь продолжается!»

Несмотря на то, что экс-глава Нацбанка **Тамара Винникова** уехала из Беларуси более 15 лет назад, ее здесь не забывают. И периодически появляются какие-то новости, так или иначе с ней связанные. Например, не так давно многие белорусские сайты растиражировали текст о том, что 10 лет назад Винниковой удалось продать гараж, хотя на все ее имущество сразу после ареста был наложен арест.

*«Понятно, что вряд ли такая сделка была бы возможна, если бы недвижимость беглой банкирши отошла государству,* — сделал вывод журналист **Виктор Федорович**. — *Случай беспрецедентный: женщину с Интерполом ищут, а она вольна распоряжаться своим имуществом! Каким образом это могло произойти — остается тайной».*

В канун 15-летней годовщины таинственного исчезновения Тамары Винниковой из-под домашнего ареста бывший депутат Верховного Совета Беларуси **Павел Знавец** в блоге на сайте «Белорусский партизан» не только описал свою последнюю встречу с экс-главой Нацбанка. Он еще связал ее бегство в Лондон с громкими исчезновениями **Юрия Захаренко, Виктора Гончара, Анатолия Красовского** и **Дмитрия Завадского**.

*«Трюк с бегством из-под стражи и дальнейшим таинственным появлением в Лондоне в 1999 году Тамары Винниковой преследовал цель на долгие годы посеять сомнения в белорусском обществе и в международных структурах относительно похищений и убийств лидеров оппозиции Беларуси,* — считает Знавец. — *Если бы не прокол и уверенность в безнаказанности подобных деяний «эскадрона смерти» летом 2000-го при похищении и уничтожении Дмитрия Завадского, возможно, до сих пор Лукашенко, ссылаясь на трюк Винниковой, втирал бы всем на пресс-конференциях о том, что «они где-нибудь в Германии или в Лондоне наслаждаются жизнью».*

Что думает обо всем этом сама Тамара Винникова?

«Народная Воля» связалась с Тамарой Дмитриевной и попросила ее ответить на некоторые вопросы, а заодно и прокомментировать последние информационные сообщения.

— Даже не знаю, стоит ли что-то комментировать, — *ответила Тамара Дмитриевна.* — Потому что потом идут такие потоки грязи, на которые невозможно ответить. Я даже и не знаю, как в таких случаях поступать. У меня уже взрослые дети и внуки. Некоторые внуки уже закончили университеты, получили хорошие предложения о трудоустройстве от компаний. И снова ворошить прошлое — даже не знаю, как на все это реагировать...

**— Ну да, у нас люди злые. Мало кого щадят, особенно в интернете на некоторых форумах популярных сайтов.**

— Вот поэтому и не знаю, как реагировать и нужно ли что-то говорить. К тому же я, наверное, не все и читала из того, что обо мне писали в последнее время. Помню, про мои отношения с Березовским что-то было...

**— А как у вас вообще дела?**

— Жизнь продолжается! Все работают, все трудятся. А что было — то было. Время все равно все расставит по своим местам.

**— А вы сами работаете?**

— Да, работаю.

Внучка в этом году университет закончила. У меня, кстати, пять внуков. Двое родились в Минске, и трое — уже в Лондоне.

**— Так они уже совсем взрослые!**

— Да. Так получилось, что на внука, который родился в Минске, почти с самого рождения обрушились все неприятности, связанные со мной. Мне же тогда не разрешили домой вернуться, а только к сыну с невесткой поселиться. И потом я исчезла, а к ним каждую неделю приезжали домой представители правоохранительных органов. Малыша из кроватки выкидывали — искали что-то, видимо, полагали, что в какой-то конфете или погремушке может быть что-то спрятано. И не считались с тем, что ребенок совсем маленький.

**— Какой ужас!**

— Не думаю, что он все это помнит, но что-то такое, видимо, осталось. Когда он окончил школу с золотой медалью, ему родители в шутку сказали: мол, ну все, возвращаемся в Минск. У него был шок! Видимо, какой-то подсознательный страх остался с того времени...

**— У вас все внуки уехали из Беларуси?**

— Да, все уехали. Никого не осталось. Хотя, знаете, что мне непонятно? Мой внук — этнический белорус, талантливый мальчик. Ну ладно со мной такое случилось, но ведь и он не может вернуться в Беларусь! И паспорт не дают, и визу не дают. Ну если мое дело — не политическое, а чисто уголовное, то какое отношение этот ребенок имеет ко всему этому? Меня поражает подобное отношение к детям таких людей, как я. Кажется, наоборот, страна должна быть заинтересована в том, чтобы все ее граждане в любой момент могли вернуться.

Например, мой старший сын имеет белорусский паспорт, а у жены и дочки паспорта закончились, и им отказались их продлить.

И если дело Тамары Винниковой не политическое, то как все это объяснить?! Тем более что мои дети взрослые, самостоятельные, живут отдельно...

**— Тамара Дмитриевна, несмотря на все эти неприятные моменты, у вас самой такой счастливый голос! Видимо, жизнь все же относительно налажена и все вокруг вас радует...**

— Жизнь продолжается, несмотря ни на что! Семья моя вся здесь, и это самое главное. Хотя, конечно, они скучают по Беларуси. У моих невесток родители там живут, они хотели бы поехать, навестить их. Но есть некоторые опасности и опасения...



ЕСТЬ ВОПРОС...

## *Поставлена ли точка в уголовном деле Тамары Винниковой?*

***Оно закрыто за давностью лет, с главной фигурантки сняты обвинения или все просто повисло в воздухе?***

За ответом на этот вопрос мы обратились вначале в Генеральную прокуратуру, а затем в Следственный комитет. Дело в том, что в свое время именно Генпрокуратура и тогдашний генпрокурор **Олег Божелко** держал это дело на особом контроле. И на одной из своих последних пресс-конференций в должности даже гарантировал беглянке полную безопасность в случае ее возвращения на родину.

Однако сегодня в пресс-службе Генпрокуратуры сослались на то, что, когда создавался Следственный комитет, все дела (и закрытые, и приостановленные) передали туда. В Следственном комитете нас заверили, что дела Винниковой в их архивах нет. Поэтому «Народная Воля» отправила официальный запрос на имя заместителя генпрокурора **Николая Куклиса** с просьбой ответить на ряд вопросов, связанных с делом Тамары Винниковой. Как только будет получен ответ от Куклиса, мы обязательно еще раз вернемся к этой теме.

ИЗ ЛИЧНОГО ДЕЛА

Тамара Винникова родилась 13 августа в 1949 г. в селе Подлужное Ставропольского края. В 1970 году окончила Белорусский государственный институт народного хозяйства по специальности «финансы и кредит». Работала экономистом Коми республиканской, Белорусской республиканской контор Госбанка СССР (1970—1973), старшим экономистом, начальником отдела, начальником управления Минской городской конторы Госбанка (1973—1987), начальником управления Белорусского республиканского банка «Жилсоцбанк СССР» (1988—1990). Возглавляла акционерный коммерческий банк «Беларусь» (август 1995 —февраль 1996).

С февраля 1996-го по январь 1997 года была председателем правления Нацбанка Беларуси.

Арестована 14 января 1997 года по обвинению в злоупотреблении служебным положением. Через полгода ей было предъявлено еще одно обвинение – в краже имущества путем присвоения, растраты или злоупотребления служебным положением.

Содержалась в СИЗО КГБ. По настоянию врачей и общественности была переведена под домашний арест.

Одновременно было сообщено, что к обвиняемой определена охрана, которая круглосуточно должна находиться рядом с ней, сопровождать ее в пределах квартиры, принимать телефонные сообщения, контролировать и запрещать вход в ее квартиру и общение по телефону с лицами, не входящими в список, согласованный со следователем. При необходимости госпитализации обвиняемая помещалась в лечебные учреждения только в тех случаях, когда администрация имела возможность обеспечить охране условия для нахождения рядом с обвиняемой. Были случаи, когда охрана не впускала в квартиру врачей, вызванных в связи с ухудшением состояния здоровья Винниковой.

На имущество Т.Винниковой был наложен арест.

*«Когда я узнал, по какому поводу возбуждено уголовное дело, то понял, что оно и выеденного яйца не стоит: те обвинения, которые были предъявлены ей после десяти дней нахождения в следственном изоляторе КГБ, не имели абсолютно никакой судебной перспективы*, — писал в своих мемуарах «Адвокатские хроники» известный юрист **Гарри Погоняйло**, который был одним из представителей по делу Т.Винниковой. — *Так, к примеру, один из эпизодов дела: Винникова передала мобильный телефон, принадлежавший банку, одному из руководителей коммерческой структуры, с которой банк сотрудничал по изготовлению бланковой продукции в том числе и для Администрации президента. В то время мобильные телефоны были редкостью, и, как объясняла Винникова, телефон она передала коммерсанту с тем, чтобы в случае необходимости иметь возможность связаться с ним. Вроде бы рабочие вопросы и никакой коррупции, никакого присвоения банковского имущества, а если что-то и есть, то — возможно — лишь нарушение финансовой дисциплины. И из-за этого председателя Национального банка упекать в следственный изолятор?! — нужды в этом не было совершенно никакой.*

*Другой эпизод обвинения: на складе не нашли когда-то подаренные Винниковой кастрюли фирмы «Цептер»! На складе потому, что стоимость кастрюль превышала две тысячи долларов, значит, Винникова не имела права принять подарок, а должна была передать его «Беларусбанку» — все эпизоды дела Винниковой никак не были связаны с ее работой в Национальном банке. Так вот эти кастрюли были обнаружены в ее квартире. Но дети Тамары Дмитриевны предъявили чеки, согласно которым кастрюли были не подарены, а куплены, причем в рассрочку. А то, что на складе «Беларусбанка» аналогичных кастрюль не оказалось, при чем тут Винникова?*

*Третий эпизод был связан с выдачей кредита в 240 тысяч долларов, оказавшегося невозвратным. Однако ни на одном из документов по выдаче кредита подписи Винниковой не было. К тому же вопрос о его выдаче решался не лично председателем банка, а коллегиальным органом — кредитным советом при банке. Да и прежде, чем попасть в руки членов кредитного совета, документы согласовываются со всеми соответствующими службами данного банка.*

*Истинной подоплеки, почему так взялись за Тамару Винникову, я не знаю, но, опираясь на те факты, которыми располагаю, могу предположить, что Винникова очень нравилась Лукашенко. Вероятно, именно поэтому он и назначил ее председателем Правления Национального банка, приблизив к себе. Однако она была лишена возможности принятия самостоятельных решений, когда вопрос касался ее выезда за границу — она могла уезжать из Беларуси лишь с личного разрешения Лукашенко. Но однажды, выехав во Францию по служебным делам, Винникова взяла отпуск и без разрешения Лукашенко уехала в Италию. Там-то ее и обнаружила Служба безопасности президента. Да мало того — не одну... Как только она вернулась в Беларусь, тут же была приглашена на совещание к Лукашенко (поговаривали, будто бы он собирался предложить ей должность председателя Совета министров), где и была арестована».*

Дело вызвало огромный общественный резонанс!

*«По делу Винниковой работало двадцать шесть следователей!* — вспоминает Гарри Погоняйло. — *Они пытались допрашивать ее по тем или иным вопросам деятельности банка едва ли не каждый день. Были арестованы многие бизнесмены — от них хотели получить информацию, будто бы Винникова брала взятки или же раздавала кредиты с «откатами». Но ни одного подобного эпизода выявлено не было, то есть этой деятельности реально не было, а люди оказались крепкими — шантажу не поддались и оговаривать Винникову не стали».*

Весной 1999 года Тамара Винникова исчезла. Спустя несколько месяцев она сообщила, что находится в Лондоне.

Четыре года назад в интервью «Народной Воле» Тамара Винникова рассказывала, что свой лондонский быт создавала с нуля, и отмечала, что ее семья живет очень скромно: *«Жилье приобретено в кредит, и, поскольку у нас не было кредитной истории, ставка довольно высокая — 8%. На погашение кредита уходит большая часть доходов (40—60%) не только нашей, но и любой другой английской семьи».*

Одно время в Лондоне Тамара Винникова работала дизайнером.

**Марина КОКТЫШ.**

ОФИЦИАЛЬНО

## Чиновников «под нож»

Помощник президента, доктор экономических наук **Кирилл Рудый** озвучил в прессе данные о количестве чиновников в стране. *«Первый шаг институциональной реформы сделан,* — заявил он, — *сокращена численность госаппарата на 23%. Теперь в Беларуси количество чиновников на 1000 занятых одно из самых низких в Европе и странах СНГ — 35 человек, в России — 75, в Казахстане — 47, в Литве, Латвии, Эстонии, Польше — 60—70».*

ЭКАНОМІКА

## Расіяне не спяшаюцца...

Вялікай цікавасці да набыцця пакета акцый Мазырскага нафтаперапрацоўчага завода расійскія кампаніі пакуль не праяўляюць, паведаміў на прэс-канферэнцыі пасол Расіі ў Беларусі **Аляксандр Сурыкаў.**

Паводле яго слоў, у расійскіх бізнесменаў, якія займаюцца нафтавым бізнесам, «існуюць пытанні» адносна ўмоў продажу акцый Мазырскага НПЗ.

*«У нас некалькі іншы падыход: не колькасць чагосьці перапрацаваць, а прыбытак. Вось што ў нас галоўнае. Таму існуюць разыходжанні ў падыходах, і ў працэсе сустрэч яны могуць быць урэгуляваны. А пакуль умовы продажу акцый Мазырскага НПЗ цяжкія»,* — рэзюмаваў амбасадар.

ЗДАРЭННЕ

## Шок у вёсцы Сярэднія Печы

Трагічнае здарэнне, якое адбылося ў вёсцы Сярэднія Печы Лельчыцкага раёна, выклікала шок у мясцовых жыхароў.

10 чэрвеня тут знайшлі павешанымі адразу двух маладых хлопцаў. **Андрэю Мэю** было 22 гады, а **Мікалаю Тушынскаму** — 23. Мікалай вучыўся ў Мазырскім педагагічным універсітэце, а Андрэй працаваў трактарыстам у сваёй вёсцы. Маці Андрэя звярнулася ў міліцыю з заявай, што яе сын яшчэ ў нядзелю не прыйшоў начаваць і больш яго ніхто не бачыў. У аўторак хлопца знайшлі павешаным у хляве, дзе было сена. А Мікола, які прыехаў да сваіх бацькоў у той жа дзень, калі знайшлі цела Андрэя, павесіўся дома. Ні адзін, ні другі не пакінулі ніякай запіскі. Асноўная версія следства — самагубства.

Дагэтуль не вядома, чаму маладыя людзі вырашылі звесці рахункі з жыццём.

Аднавяскоўцы кажуць, што абодва яны паходзілі з добрых сем'яў, самі былі працавітыя, не мелі шкодных звычак.

Жыхарка вёскі **Марына НАЦЕЦКАЯ** сказала «Народнай Волі»: «*У нас такога ніколі не было. Мы ўсе ў шоку. Абсалютна незразумела, як падобнае ў нас магло здарыцца. Да таго ж тата Міколы быў хросным Андрэя...*».

**Любоў ЛУНЁВА.**

ИЗ ПЕРВЫХ УСТ

# *Михаил ПАСТУХОВ:*
## «Подтолкнем государство к исполнению своих международных обязательств...»

*На днях в Минске состоялось учредительное собрание: более 50 граждан из разных регионов Беларуси приняли решение о создании новой общественной организации. Ее особенностью является не только «звездный» состав учредителей, но и само название — «Движение за реализацию Международного пакта о гражданских и политических правах» (если коротко — «Пакт»).*

*Один из ее организаторов — известный юрист Михаил ПАСТУХОВ – рассказал «Народной Воле» о создаваемой инициативе.*



**— Михаил Иванович, с какой целью создается «Пакт»?**

— В проекте Устава организации на этот счет записано: *«...с целью оказания содействия в реализации на территории Республики Беларусь решений Комитета ООН по правам человека».* Дело в том, что с каждым годом растет число обращений белорусов в Комитет ООН и число решений, принятых по этим обращениям. Но власти делают вид, что решения Комитета ООН их не касаются, считают такие решения необязательными для исполнения.

**— Можете для убедительности привести некоторые цифры?**

— На сегодняшний день в Комитете ООН зарегистрировано свыше 160 обращений от граждан Беларуси. По 60 обращениям уже приняты решения. И, как можно догадаться, почти все они свидетельствуют о нарушении белорусским государством основных прав и свобод своих граждан. Преимущественно это нарушения политических прав: свободы выражения мнений, свободы объединения, права на проведение мирных акций протеста... Но предметом обращений являются также личные права и свободы, в том числе право на жизнь, право не подвергаться пыткам, право на справедливое судебное разбирательство.

При этом особенность ситуации в Беларуси состоит в том, что она – единственная из стран, где власти отказываются признавать и исполнять решения Комитета ООН по правам человека. Именно это и подвигло нас объединиться для того, чтобы совместно защищать свои права.

**— На что вы надеетесь?**

— Надеемся, что рано или поздно белорусское государство станет добросовестно исполнять свои международные обязательства по линии прав человека, и наша организация будет понуждать власть к этому. Но сейчас первоочередная задача — зарегистрировать «Пакт».

**Беседовал Александр НИКОНОРОВ.**

ЗА ПРАХАДНОЙ

# Чаму рабочыя не могуць пахваліцца высокімі заробкамі...

***(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)***

Са словамі дырэктара можна пагадзіцца: зарабіць валюту беларускаму вытворцу (і не толькі ў энергетычнай галіне) вельмі і вельмі няпроста. Гэтыя грошы ідуць на аплату расійскай нафты і газу, зразумела, у разліках бярэцца валюта, мацнейшая за наш рубель... тыя ж еўра і долары. Дык чаму б адказным за гэта чыноўнікам не прыняць адпаведны дакумент, які рэгламентаваў бы максімальнае спажыванне ўнутры краіны свайго торфу, а не чужога газу? Гаворка, зразумела, не ідзе, каб усіх пагалоўна перавесці на гэты від паліва, але нейкае кампраміснае рашэнне знайсці трэба.

Што тычыцца лідскага ноу-хау — «палявога» міні-завода, то само па сабе абсталяванне выглядае проста, як дэталі вялікага канструктара.

— *Вопыт увядзення ў эксплуатацыю такіх міні-заводаў быў намі вывучаны ў Расіі,* — расказвае Іван Залескі. — *Калі гаварыць пра плюсы, то іх шмат. Па-першае, ёсць магчымасць аператыўнага перамяшчэння гэтага комплексу на іншую вытворчую пляцоўку, ды і працэс мантажу абсталявання даволі лёгкі. Па-другое, для работы гэтага міні-завода няма неабходнасці праводзіць інжынерныя сеткі, патрэбна толькі электрычнасць з напружаннем току ў 380 вольт. Высокі ўзровень аўтаматызацыі комплексу дазваляе скараціць колькасць рабочых да двух чалавек: для яго абслугоўвання патрэбны толькі аператар і кіроўца пагрузчыка, комплекс можа працаваць і пры тэмпературы ў мінус 20. Дзякуючы з'яўленню гэтага міні-завода ў нас з'явілася магчымасць распрацоўваць невялікія тарфяныя сховішчы з запасамі торфу да 1 мільёна тон. Раней такая магчымасць у Беларусі нават не разглядалася... Карацей, падобныя міні-заводы — гэта крок у будучыню.*

Ад сябе адзначым, што «крок у будучыню» абышоўся Лідскаму торфабрыкетнаму заводу ў капеечку. Кошт навінкі вытворчасці склаў 21,6 мільярда рублёў. Для пакупкі былі затрачаны як крэдытныя, так і заробленыя самім заводам грошы. Мяркуецца, што тарфяное ноу-хау акупіцца крыху болей чым праз 5 гадоў... Зразумела, пры наяўнасці попыту на прадукцыю. А што рабіць, калі зімы зноў будуць цёплыя?..

## Выручка ў год — 36 тысяч долараў з разліку на кожнага рабочага. А месячны заробак — 5 мільёнаў рублёў

На іншым прадпрыемстве энергетычнай галіны краіны — Навагрудскім заводзе газавай апаратуры — праблем з пошукам каналаў для збыту прадукцыі не ведаюць. Пра гэта сведчыць хаця б тое, што літаральна на мінулым тыдні прадпрыемства атрымала тытул «Экспарцёр года» на спецыяльным конкурсе. Прадпрыемства спецыялізуецца на выпуску бытавых газавых балонаў, а таксама балонаў для аўтамабіляў, так што добры збыт — гэта не дзіва.

Пра тое, як і чым жыве завод зараз, распавядае ягоны дырэктар **Віктар Турлюк:**

— *На сённяшні дзень у нас працуе 1235 чалавек. Калі я прымаў завод (а было гэта ў 2009-м), працоўных месцаў было на 400 больш. Але я вам шчыра скажу: мы стараемся нікога не звальняць; калі аўтаматыка замяняе чалавека, то яму прапануецца іншае месца на прадпрыемстве. У асноўным людзі сыходзяць ад нас самі.*

Адзначым, што зараз на заводзе, калі можна так выказацца, дзве вытворчасці: старая — паўаўтаматызаваная, і зусім новая — цалкам робатызаваная. Прадпрыемства знаходзіцца ў стадыі мадэрнізацыі. Нядаўна тут быў аб'яўлены тэндар на пастаўку новага абсталявання на завод. Гэта будзе яшчэ адна цалкам аўтаматызаваная лінія. Яе кошт — прыкладна 700 тысяч еўра. Тэрмін акупнасці — 2—3 гады.

Дарэчы, менавіта ў наладчыкаў, якія працуюць з робатамі, адны з самых высокіх даходаў. Іх заробак складае прыкладна 9 мільёнаў рублёў у месяц. Хаця Віктар Турлюк прызнаецца, што так атрымліваюць далёка не ўсе.

— *Узровень даходаў у людзей розны. Хтосьці мае і тры мільёны, хтосьці — дзевяць, а сярэдняя зарплата на «Новагазе»* (менавіта пад такой назвай завод ведаюць за межамі краіны. — **Аўт**.) *складае 5 мільёнаў 400 тысяч рублёў. Адзначу, што за апошнія 5 гадоў яна ўзнялася на 186%.*

Лічба выглядае ўнушальнай, асабліва калі не ведаць, што за гэты час краіна перажыла страшэнную, амаль 60%-ную, дэвальвацыю...

Віктар Турлюк не без задавальнення адзначае, што ў мінулым годзе прадпрыемствам быў пабіты «рэкорд Савецкага Саюза» — у Навагрудку выпусцілі 605 тысяч газавых балонаў. Геаграфія паставак — краіны былога СССР, а таксама Афрыка і Лацінская Амерыка.

75% прадукцыі ў мінулым годзе якраз на экспарт і пайшло, астатняя частка асела ў Беларусі. Да таго ж менавіта ў Навагрудку бярэ камплектуючыя брэсцкі завод «Гефест».

Са слоў Віктара Турлюка вынікае, што ў Навагрудскага завода газавага абсталявання праблем няма: аб'ём вытворчасці расце, складскія запасы не перавышаюць нормы, рынкі збыту таксама ёсць — карацей, не жыццё, а казка.

Думаецца, не варта загружаць чытача эканамічнымі выкладкамі дзейнасці цалкам прыбытковага прадпрыемства. Але ў шэрагу лічбаў, якія прадставіў спадар Турлюк, адна падалася асабліва цікавай: выручка (не блытаць з прыбыткам), якую кожны працуючы прыносіць роднаму прадпрыемству, — 36 тысяч долараў (ці каля 360 мільёнаў у год), а вось заробкі далёка не рэкордныя.

Прычым дырэктар адзначыў, што ў 2015 годзе выручку плануецца давесці да 60 тысяч долараў на чалавека... Але ці вырасце заробак людзей у паўтара раза, калі навагрудскі завод выйдзе на гэты паказчык?..

Я слухаў спадара дырэктара і думаў: калі ўсё так добра (а статыстычным дадзеным быццам бы трэба верыць), то чаму таму ж простаму рабочаму мець заробак не 5 мільёнаў 400 тысяч рублёў, а хоць бы ў 2 з паловай разы больш.

Дырэктар працягваў разважаць:

— *За апошнія чатыры гады зарплата ў доларавым эквіваленце ў нас вырасла. Ну, можна падняць заробак і да тысячы долараў... Пражывём паўтара-два месяцы на шырокую нагу, а далей што? Трэба выбіраць: ці есці смачна ды шмат сёння, ці не так смачна і не так шмат, але кожны дзень. І зразумейце: нам неабходна ўкладаць грошы ў новае абсталяванне, іначай прадпрыемства проста выштурхнуць з рынку...*

Без усялякіх асабістых прэтэнзій да Віктара Турлюка адзначым, што менавіта на пасыле «лепш есці дрэнна, але кожны дзень», на жаль, і трымаецца амаль уся беларуская вытворчасць. Людзей, занятых на вытворчасці, увесь час просяць пацярпець, зацягнуць паясы: маўляў, заўтра будзе лепш. Вось толькі нармальна жыць людзям хочацца сёння. А для гэтага трэба мець неблагія заробкі.

**Віталь ГАРБУЗАЎ.**

*Ліда—Навагрудак.*

**P.S. Наведванне прадпрыемстваў адбылося ў рамках прэс-тура, арганізаванага Міністэрствам энергетыкі Беларусі.**

ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА

# Скульптар і грамадскі актывіст Генік Лойка судзіцца з КДБ і «Белінвестбанкам»,

## *адстойваючы сваё права на карыстанне беларуская мовай*

10 красавіка ў судзе Цэнтральнага раёна Мінска адбыўся судовы працэс па іску Лойкі да КДБ аб парушэнні артыкула №4 Закона аб мовах, які абавязвае супрацоў-нікаў дзяржаўных органаў валодаць дзвюма дзяржаўнымі мовамі.

Праз дзень у гэтым жа судзе адбыўся яшчэ адзін працэс па іску скульптара да «Белінвестбанка».

Паводле слоў Геніка Лойкі, у дзяржаўных структурах працуе вельмі шмат людзей, якія не ведаюць род-ную мову і адкрыта гэта прызнаюць. Праз судовыя працэсы актывіст паспрабаваў прыцягнуць да адказнасці чыноўнікаў і прымусіць іх выконваць Закон аб мовах, аднак скаргі Геніка Лойкі былі адхілены. Маўляў, ніякага дыскрымінацыйнага стаўлення да беларускай мовы ў краіне няма.

Днямі Мінскі гарадскі суд перанёс чарговы разгляд скаргі скульптара на нявызначаны тэрмін, таму што суддзі... будуць шукаць беларускамоўнага перакладчыка.

*«Я патрабаваў і патрабую ў дзяржавы не так і шмат — каб я меў магчымасць карыстацца роднай мовай, бо іншай не валодаю,* — распавёў «Народнай Волі» **Генік ЛОЙКА.** — *Каб у дзяржаўных установах са мной размаўлялі на мове. А дзяржава гэтага не дае. У раённым судзе суддзя Сямак паведаміла, што на мове мне могуць адказаць толькі ў пісьмовым выглядзе, а ў астатнім мае правы не парушаны. Абсурд!.. У Беларусі мне трэба судзіцца, каб са мной размаўлялі на беларускай мове! Ды што казаць, тая ж суддзя дасылае мне позву ў суд на рускай мове. І судовыя працэсы ідуць на ёй жа. Але ж у Канстытуцыі ёсць артыкулы, у якіх сказана, што чалавек мае права на выбар мовы і дзяржава гарантуе забеспячэнне гэтага права. Аказваецца, з'яўляюцца нейкія «інтэрпрэтацыі», пасля чаго тое, што прапісана ў Асноўным законе, пераўтвараецца ў пусты гук. Я, дарэчы, на судзе прыводзіў і вытрымкі Дырэктывы прэзідэнта №2 ад 27 снежня 2006 года, дзе чорным па белым напісана: **«У выпадку няяснасці альбо невыразнасці прадпісання прававога акта рашэнні павінны прымацца зыходзячы з максімальных інтарэсаў грамадзян»**. Суддзя проста праігнаравала гэты факт. Магчыма, хтосьці скажа, што я — вар'ят, якому больш няма чаго рабіць, як судзіцца за мову, але я буду змагацца да канца. Страцім мову — згінем самі».*



Праваабаронца **Валянцін СТЭФАНОВІЧ** звяртаўся ў Канстытуцыйны суд, Савет Рэспублікі, Адміністрацыю прэзідэнта, адзначаючы, што беларускія законы прымаюцца на расійскай мове і не маюць афіцыйнага перакладу на другую дзяржаўную мову — беларускую. Праўда, адказы дзяржаўных чыноўнікаў, як і ў выпадку з Генікам Лойкам, былі стандартныя: дыскрымінацыі беларускай мовы няма, а значыцца, няма праблемы.

— Для большасці абыякавых людзей, якія размаўляюць на рускай мове, праблема, можа, і не актуальная, але чаму павінны парушацца правы тых, хто размаўляе на беларускай мове? — кажа праваабаронца. — Закон аб мовах у тым выглядзе, у якім ён існуе, не забяспечвае рэалізацыю канстытуцыйнага прынцыпу роўнага юрыдычнага статусу дзвюх моў. Хаця закон дэкларуе, што гарантуецца беспершкоднае ўжыванне мовы ва ўсіх сферах жыцця, але на практыцы на беларускай мове вам адкажуць толькі на пісьмовы зварот. Але самая асноўная праблема, што ў краіне адсутнічае заканадаўства на беларускай мове, што я і падкрэсліваў, звяртаючыся ў Канстытуцыйны суд. Нават у БССР законы і кодэксы выдаваліся на дзвюх мовах, і, паводле савецкага заканадаўства, у саюзных рэспубліках можна было выкарыстоўваць нацыянальныя мовы і ў справаводстве, і ў судах... А ў нас заканадаўства фактычна цалкам рускае, а гэта цягне за сабой шэраг наступстваў. Напрыклад, як той жа суддзя будзе весці працэс на мове, калі ў яго няма беларускамоўнага заканадаўства?

**— Дзяржаўныя органы ў вашых зваротах праблемы не ўбачылі?**

— Так, для іх гэта не праблема. Адміністрацыя прэзідэнта прапанавала праз сайт перакладаць заканадаўства самастойна. Дарэчы, гэтая паслуга платная, і з гэтай нагоды пытанне: чаму грамадзянін Беларусі павінен плаціць грошы, каб нешта прачытаць на роднай мове? Ды і аўтаперакладчык робіць цэлую процьму памылак — напрыклад, сказ «влечет наложение штрафа» перакладаецца як «вабіць накладанне штрафу». І што, суд будзе працаваць з такім дакументам? Павінен быць афіцыйны пераклад, мне здаецца, гэта зрабіць зусім проста. Дзяржаўныя органы не хочуць выконваць палажэнні Канстытуцыі, а чаму яны гэта не робяць — гэта зусім іншае пытанне. Але зменіцца сітуацыя толькі тады, калі мы будзем патрабаваць абароны сваіх правоў. Пад ляжачы камень вада не цячэ.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

### КАМЕНТАРЫЙ ЮРЫСТА

**Павел САПЕЛКА:**

— У апошні час практычна ўсё заканадаўства прымаецца на рускай мове. Таму, калі беларускамоўны чалавек уступае ў свет права, ён павінен быць сабе і перакладчыкам. У свой час адна грамадская арганізацыя праявіла ініцыятыву перавесці кодэкс, але ёй сказалі: «Прабачце, гэта не ваша кампетэнцыя». Адным словам, той, хто павінен займацца, гэтым не займаецца, а іншым нельга. Але самае сумнае — ніхто ва ўладзе не хоча бачыць у гэтым праблему. Маўляў, руская ж мова — не кітайская...

Дарэчы, ёсць суддзі, якія ў дасканаласці ведаюць беларускую мову і нават вядуць працэсы на ёй. Але гэта хутчэй выключэнне, чым правіла. У асноўным суддзі ваяўніча заяўляюць, што яны маюць права размаўляць на рускай мове і ніхто іх не абавяжа пераходзіць у гутарцы з суразмоўцам на беларускую.

Каб сітуацыя змянілася, шмат не трэба. Дэпутатам дастаткова зразумець, што ў двухмоўнай краіне заканадаўства павінна быць двухмоўным, каб рэальна захоўваліся правы і адной мовы, і другой. Не будзем паважаць самі сябе — ніхто нас не будзе паважаць у свеце.

МОДЕРНИЗАЦИЯ



# *Денис МЕЛЬЯНЦОВ:* «Запрос на реформы в белорусском обществе есть»

## *Но как свести воедино инициативы власти, оппозиции, бизнеса и третьего сектора?*

О «челночной дипломатии» и о том, почему белорусы нуждаются не в революционных программах, а в идеях, которые могут быть реализованы здесь и сейчас, рассуждает старший аналитик Белорусского института стратегических исследований (BISS) **Денис МЕЛЬЯНЦОВ.**

**— В январе 2014 года было объявлено о старте «Реформума». Прошло четыре месяца. Как развивается проект?**

— Цель проекта — разработка конкретных предложений по реформам в различных областях. Самый главный вызов проекта — необходимость объединить интересы и ожидания, которые доминируют в различных группах белорусского общества. Для этого предполагается провести несколько форумов, ключевая задача которых заключается как раз в том, чтобы свести воедино инициативы всех этих групп — и бизнес-ассоциаций, и властных структур, и политической оппозиции, и третьего сектора. Несколько месяцев у нас ушло на «челночную дипломатию» — мы стремились максимально удовлетворить интересы всех сторон.

С правительством, конечно, в нашей ситуации работать сложнее всего. Хотя контакты у нас есть, хотя бы на неформальном уровне. Непросто было и с гражданским обществом, и с оппозицией — ведь разные группы смотрят на этот проект по-разному. Но в итоге нам удалось создать схему, и теперь мы готовы к тому, чтобы провести заседание Совета «Реформума», а затем — первый форум для представителей гражданского общества и политической оппозиции. Так что сейчас мы как раз на старте активной фазы проекта.

Кроме того, на подготовительном этапе мы провели национальный опрос. Был разработан специальный опросник, проведены интервью с представителями гражданского общества, политической оппозиции. Полученные данные уже в обработке у социологов. Пока я не могу разглашать результаты исследования, но скажу так: некоторые данные привели нас в замешательство. Другие — обрадовали. Конечно, опрос проводился в разгар украинского кризиса, и это не могло не отразиться на отношении к реформам и путям их проведения. В ближайшее время мы опубликуем результаты этого опроса, но в целом очевидно: запрос на реформы в нашем обществе есть.

Теперь слово за форумами, которые определят те приоритеты и направления, за которые возьмутся конкретные экспертные группы.

**— А что внушает вам оптимизм? Неоднократно на протяжении последних лет многочисленные структуры и институты разрабатывали различные концепции реформ. И все эти концепции так и остались невостребованными и нереализованными. У вас есть основания полагать, что разработки «Реформума» ждет иная судьба?**

— Наш проект отличается от того, что делалось до сих пор. Во-первых, все предыдущие концепции разрабатывались исследовательскими центрами или по собственной инициативе, или по заказу политических партий. И их авторы исходили из собственного понимания того, как это должно быть. Инновационность нашего проекта в том, что мы стремимся объединить интересы различных групп и закрыть максимальный спектр возможных реформ. Мы хотим сделать продукт, который могут использовать в своих программах и политическая оппозиция, и гражданское общество, и государство, и бизнес-сообщества. И такие примеры есть — наше аналитическое исследование о том, как Беларуси войти в топ-30 стран с наилучшими условиями для ведения бизнеса, было частично использовано государством.

**— И в топ-30 мы в итоге вошли.**

— Вот именно.

Во-вторых, мы с партнерами сделали реестр всех наработок в области реформ, которые у нас были сделаны за эти годы. Что-то будет учтено, хотя многое там, конечно, уже устарело. Но ничто, по крайней мере, не будет забыто.

**— Но при таком подходе есть и другой риск: создавая концепцию, которая удовлетворит всех без исключения — а ведь у всех этих групп с большой долей вероятности может быть совершенно разное видение будущего нашей страны — мы получим вместо комплекса реформ набор противоречащих друг другу шагов.**

— Если реформировать страну, как говорится, с фундамента, нужна, конечно, единая линия. Но наш проект — наследник и часть «Европейского диалога о модернизации Беларуси». У нас нет задачи готовить революционную программу. Мы должны выработать идеи, которые могут быть реализованы здесь и сейчас, в наших современных условиях. Скорее наша задача — определить проблемные места, «белые пятна» в существующем законодательстве и предложить наработки, которые улучшили бы ситуацию и удовлетворили бы как гражданское общество, так и государство.

**— Буквально на днях известный реформатор Каха Бендукидзе предостерегал соседнюю Украину от потери времени на разработку сложных концепций, предлагая немедленно решать имеющиеся проблемы, причем хирургическим путем. А мы, не говоря уже о хирургии, который десяток лет все никак не можем собраться и наконец-то понять — а чего мы вообще хотим? Это претензия, конечно, не к экспертному сообществу. Но раз уж затронули эту тему — сегодня, по вашим ощущениям, различные группы готовы сесть и решить, какой быть стране? В том числе и при помощи «Реформума»?**

— Вопрос сложный. То, о чем вы говорите, — это, скорее, политический процесс. Мы, наверное, пока далеки от такого консенсуса. Но, с другой стороны, государственные структуры постепенно улучшают ситуацию в экономике. Бизнес-климат стал гораздо комфортнее. По условиям налогообложения для малого и среднего бизнеса Беларусь сегодня лучшая в регионе. Наше правительство готово что-то совершенствовать, адаптировать некие идеи к нашей ситуации. И оно это делает достаточно успешно, используя многие наработки независимых исследовательских центров.

**— Примерно в середине июня состоится первый форум в рамках проекта. Ваши ожидания от этого форума?**

— Первый форум соберет представителей политических партий и гражданского общества. Форум по формату будет открытым, а значит, его участники могут приглашать представителей других организаций, если они посчитают это необходимым.

Главная задача форума — определить приоритет. То есть направление для работы нашей экспертной группы. Скажем, форум решает: наиболее актуальна для нас сегодня реформа в области здравоохранения. Значит, эксперты начнут работу над этой задачей. Кроме разработки конкретных предложений они будут проводить скрининг законодательства, чтобы понять, что именно и где надо менять, чтобы реформа заработала, и подсчитать стоимость этих реформ.

Так что мы ждем от форума постановки задачи. Представители политических партий и гражданского общества должны будут договориться между собой о том, какое именно направление станет приоритетом.

**Николай АНИШУК.**

### Из истории вопроса

В январе 2014 года в рамках инициативы «Европейский диалог о модернизации» Белорусский институт стратегических исследований (BISS) приступил к реализации проекта «Реформум». Основная задача — через проведение национальных опросов и коммуникацию с целевыми аудиториями (власть, бизнес, гражданское общество) определить сферы, которые нуждаются в реформировании, и выработать конкретные предложения силами белорусских и международных экспертов. Главная цель проекта — повышение конкурентоспособности белорусского общества за счет создания конкретных предложений по реформированию различных сфер.

Проект рассчитан на 2 года и разбит на 4 этапа длительностью по полгода каждый: 6 месяцев — минимальный срок для разработки конкретных предложений после получения заказа. Определять «заказ» для экспертных групп будут 4 целевые аудитории: власть, бизнес, гражданское общество и общество в целом. В результате этих мероприятий будут получены 16 предложений реформ (4х4). Проект реализуется при поддержке Европейской комиссии.

АКТУАЛЬНА

# Замест парадаў дзіцячы хоспіс

Рэклама на БТ заклікае людзей зрабіць добрую справу і ахвяраваць свае грошы на будаўніцтва дзіцячага хоспіса. І патрэбна ўсяго 4 мільёны долараў. Не такія і вялікія грошы па вялікім рахунку — кошт маскоўскай кватэры на Кутузаўскім праспекце.

Не сакрэт, што катастрофа на Чарнобыльскай АЭС справакавала выбух анкалагічных захворванняў. На сённяшні дзень невядома, колькі людзей адгукнуліся на прапанову, але цікава даведацца, што на гэты конт думаюць ліквідатары наступстваў аварыі.

Адзін з іх, **Алесь ЧАХОЛЬСКІ**, выказаў сваё меркаванне:

*— Я прапаную адмяніць парад і салют. Нават толькі гэтага будзе дастаткова, каб пабудаваць дзіцячы хоспіс. Ёсць і іншыя варыянты. Напрыклад, не будаваць спецклініку ў Ждановічах, не будаваць чарговую рэзідэнцыю, не будаваць чарговы лядовы палац. У рэшце рэшт, Лукашэнка можа звярнуцца да сваіх расійскіх сяброў, як-ніяк, а яны павінны Беларусі 235 мільярдаў долараў кампенсацыі за аварыю на ЧАЭС. Гэта дазволіць вывесці з абароту чарнобыльскія землі, на якіх вырошчваюць забруджаныя радыяцыяй гародніну і зерне. Калі спыніць атручванне народа, то не спатрэбіцца і хоспісаў столькі будаваць, а то ад ужывання такіх прадуктаў у нас хварэюць дзясяткі тысяч людзей. Замест новай атамнай смерці, я маю на ўвазе будаўніцтва Астравецкай АЭС, можна пабудаваць у тых мясцінах шмат новых рэабілітацыйных цэнтраў, каб людзі ў гэтых запаведных мясцінах маглі папраўляць сваё здароўе. Зрабілі б гэта — і не трэба было б прасіць людзей, каб яны ахвяравалі свае няшчасныя капейкі.*

**Любоў ЛУНЁВА.**

ЭКСПЕРТИЗА

# Пять месяцев в год белорусы работают на государство

Каждый белорус в 2014 году работал на содержание государства 5 месяцев и 6 дней, или 157 дней. Таковы результаты исследования Tax Freedom Day, которое провели эксперты дискуссионно-аналитического сообщества «Либеральный клуб».

Главная цель исследования — показать гражданам Беларуси размер их текущего налогового бремени и времени, которое они затрачивают для работы на государство.

Авторы подчеркивают, что основное налоговое бремя белорусов формируется из налогов на потребление, которые составляют львиную долю поступлений в бюджет страны. Серьезной фискальной нагрузкой для населения являются обязательные выплаты на социальное страхование. На них приходится почти треть изымаемых у населения средств. Из-за присвоения Фонду социальной защиты населения внебюджетного статуса (с 2010 года) многие международные институты не учитывают его при подсчете общего размера доходов государства. Это серьезно искажает результаты международного сравнения по этому и другим связанным с ним показателям. Кроме того, основной доход бюджет получает за счет налогов, перечисляемых юридическими лицами, из-за чего у гражданина может создаться иллюзия, что его налоговое бремя невелико.

Авторы исследования утверждают, что второй год подряд показатели Tax Freedom Day в Беларуси ухудшаются, и связывают это с замедлением экономического роста, внесением изменений в налоговое законодательство, мягкой денежно-кредитной политикой, направленной на стимулирование внутреннего спроса.

РЭАЛЬНАЯ ЭКАНОМІКА

# Як пражыць без грошай?

Па стане на 1 чэрвеня 302 арганізацыі Беларусі не разлічыліся са сваімі работнікамі. Пра гэта паведамляе Нацыянальны статыстычны камітэт.

Больш за ўсё арганізацый, якія маюць запазычанасць па зарплаце, зарэгістравана ў Мінскай вобласці — 154, за ёй ідзе Віцебская вобласць — 121. Значна лепшая сітуацыя ў Магілёўскай (10), Гомельскай (7), Брэсцкай (2) абласцях і ў Мінску (8). А вось у арганізацыях Гродзенскай вобласці пратэрмінаванай запазычанасці па выплаце зарплаты няма.

Асноўная доля прадпрыемстваў-даўжнікоў прыпадае на сельгасарганізацыі. Але ёсць у спісе і буйныя прадпрыемствы. Так, работнікам запазычыліся такія арганізацыі, як «Баранавічыдрэў», Віцебскае ААТ «Класіка індустрыі моды», ЗАТ «Мантажлегмаш» (Мінск), ЗАТ «Завод Проминдустрия» (Мінск), Барысаўскі хрустальны завод імя Дзяржынскага, Магілёўскі завод «Строммашына», Магілёўская швейная фірма «Вяснянка», Бабруйскі камбінат жалезабетонных вырабаў і іншыя.

# Знайшлі

Беларускае дзяржаўнае вытворчае аб'яднанне «Беларуснафта» адкрыла новую залеж нафты на Заходне-Калінінскім радовішчы ў Хойніцкім раёне Гомельскай вобласці.

Як паведамляецца, на глыбіні 4236—4241 м быў атрыманы фантанны прыток бязводнай нафты. Пачатковы дэбет склаў амаль 30 тон у суткі.

Дарэчы, і само Заходне-Калінінскае радовішча было адкрыта толькі ў мінулым годзе.

ВАЛЮТА

# Усё вышэй, і вышэй, і вышэй

Мы прызвычаіліся да таго, што літаральна кожны раз навіны з валютнай біржы пачынаюцца словамі: «Курс долара ўсталяваў новы гістарычны максімум». Так, напрыклад, у чэрвені таргі праводзіліся 7 разоў і на 5 з іх долар рос да новай максімальнай адзнакі. А як вырасла валюта з пачатку года?



